УДК 821.161.3-821
ББК 84(4Беи)
Д13

Рэдагаванне і малюнкі аўтара

**Давідовіч, С. Ф.**
Д13 Збор твораў. Т. 10. Вершы. Паэмы. / Сяргей Давідовіч. — Мінск : А. М. Вараксін, 2018.— 432 с., іл.

ISBN 978-985-7186-76-1.

У дзесяты том збора твораў Сяргея Давідовіча ўвайшлі, напісаныя ў 2018 годзе вершы і паэмы.
Творы цікавыя сваёй псіхалагічнай заглыбленасцю, сюжэтнай вастрынёй і актуальнасцю.

**УДК 821.161.3-821**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7186-76-1**

## Дылема

Вось дапішу апошні том — дзесяты…
Апошні ці чарговы?
Невядома.
І з мар, куды натхненнем
быў узняты,
Спушчуся на зямлю —
агорне стома.

Ці ж выбар мой —
апошні том? Чарговы?
Я — пасяродку гэтых слоў
Ці дзе я?
Апошні —
Гэта крыж датэрміновы,
Чарговы —
Ратавальная надзея.

Ад году ў год,
ад верша да паэмы,
Ад тома і да тома час віруе.
Ніколі мне не вырашыць дылемы —
Апошні ці чарговы
Дзень жыву я?

# Хто адкажа?

Сябе спасцігнуць
так я і не здолеў —
Хто ў свеце я,
Адказ не мог знайсці.
Я па жыцці прайшоў,
нібы па полі
Ці ўсё-такі
Я крочыў па жыцці?

Я прыкладаў
Нястомна намаганні,
Шукаў,
Шукаю
Й не найду адказ:
Мой час жыцця —
запознены ці ранні,
Прайшоў мой час
ці не настаў мой час?

Я й сам сябе
не гладзіў па галоўцы,
Разбэрсана душа
на ўсе бакі —
Я ёсць які —
адмоўны ці станоўчы?
Ці горшы самых горшых —
Ніякі?

Мой лёс быў,
як і многіх лёс — вірлівы,
Хрысціў выпрабаваннямі
Штодня.

Я быў бязгрэшны?
Сціплы?
Справядлівы?
Я быў заўсёды правільны?
Хлусня!

У тым, што век зжываю —
Мала шчасця,
Які быў век мой,
хутка што міне?
Які я ёсць?
Спасцігнуць ці удасца?
Навошта быў я?
Хто адкажа мне?

## Богаўгодна

Каб падскочыць,
Адштурхнуцца трэба,
Хай сабе й не даляціш
Да неба,
А ў паветры будзеш
хоць імгненне,
Зведаеш, адкуль яно,
Натхненне.

Каб падскочыць…
Можна пнуцца й пнуцца,
Ад пустога
Век не адштурхнуцца,
Не ўзляцець з пустога
Ні на ёту,
Вельмі шмат патрэбна
Для узлёту.

Сэрцам трэба быць
Ў бацькоўскай хаце,
Трэба помніць
калыханку маці
І любіць
Свой родны кут адзіны,
Не ўяўляць сусвету
Без Радзімы.

І яшчэ —
Для ўзлёту неабходна
Жыць духоўна,
Светла,
Богаўгодна,

І дзяліцца ад душы
З усімі
Творчымі здабыткамі
Сваімі.

Да ўсяго —
Дадам яшчэ умову:
Родную ў палёт
Бярыце мову,
Каб уславіць ёю
Край наш мілы,
А інакш —
Душы аслабнуць крылы.

## Лёгка... Цяжка...

Прыемна —
Па жыцці самааддана,
Калі ёсць мэта,
да яе ісці.
Том дапісаць
не так ужо й складана,
Цяжэй —
Апошнюю старонку у жыцці.

Прыемна сябраваць
надзейна, важка,
Калі у душах —
шчырасці праз край.
Развітвацца
Пасля сустрэчы цяжка,
Цяжэй сказаць
апошняе «Бывай!»

Як цяжка першы раз
сказаць: «Кахаю!»,
Але, бывае,
Пачуццё міне.
Тады каханне
сумна дагарае
У больш цяжкі́м,
кароткім слове «Не…»

Лягчэй… Цяжэй…
Няпростыя лічылкі —
І хто з іх
больш балюча б’е пад дых?

Мы ўблытваемся
з лёгкасцю ў памылкі,
І з цяжкасцю
Выблытваемся з іх.

Жыццё, яно —
матэрыя жывая,
То прыцемак,
То золкасць,
То святло…
Калі ў жыцці
ўсё лёгка не бывае,
Дык не дай Бог,
каб цяжка ўсё было.

## То бяздонне, то мелі

З узвышша фантазій
я кідаўся ўніз галавой
У плынь свайго лёсу,
не ведаючы глыбіні.
Глыбока было —
і захлёбваў мяне «вадапой»,
А мелка было —
біўся цемем у дно,
У карчы, камяні.

То шышкі на цеме, на лбе,
то вады повен рот,
А я ўсё даваў і даваў
з новай мары нырца.
То плыні бяздонне, то мелі —
і так без канца,
Пакуль не найшоў ратавальны,
здавалася, брод.

І вось я на беразе,
як рыбіна, што без вады,
Нібыта прачнуўся і ўстаў
з непатрэбнай нагі.
Амаль непрыкметна сплылі,
адбруілі гады,
Як мала жыцця захавалі
жыцця берагі.

Ці недзе галосяць званы,
ці ў вушах гэты звон,
Ці вецер кагось адпявае,
ці выюць ваўкі.

Таму, што было ды сплыло,
я гляджу наўздагон,
А побач — ні шчырых вачэй,
ні душы, ні рукі.

І холадна сэрцу да болю,
як птушцы зімой,
Ў астылых надзеях
яму не сагрэцца, на жаль.
Няўтульна на беразе мне —
асяродак не мой,
Хацеў даць нырца я,
ды плынь перасохла амаль.

## З паслязімняга выраю

Гляну ўверх,
У блакітнае неба без дна,
Пагляджу на бакі —
лес ажыўшы пяе.
З паслязімняга выраю
марай вясна
Прыляцела да нас —
тут радзіма яе.

Тут Радзіма адзіная —
ваша й мая,
З ёй нікому, ніколі
нас не разлучыць.
Песня песняў усіх
земляка-салаўя
Толькі тут,
На Радзіме адзінай гучыць.

Кроплі шчырасці слёз
пацяклі па шчацэ —
Тут нябесная сінь,
тут бяроз родных бель.
Я сваіх намаганняў
сініцу ў руцэ
Не трымаю — ляці!
Бачыш, вунь журавель!

## Бываюць словы...

Бываюць словы, як туман,
За імі аўтара не бачна.
Ці бачыцца двухтвары Ян,
Ці ў словах сэнс неадназначны.

Ёсць словы, як пусты арэх,
Сарваў, але не варта грызці.
Ёсць словы, як дзіравы мех —
Ні сэнсу ў іх і ні карысці.

Ёсць колкія, нібы асцё,
Ёсць словы вострыя, як брытва.
Ёсць важкія, нібы жыццё,
Як ачышчальная малітва.

Ёсць словы…
Не, за імі мы —
Пачуццяў розных, думак гама.
Ляцяць з нас словы, як з турмы —
Злачынцы…
Ці Анёлы з Храма.

# Вірус зла

Мы ўсе —
Упаўнаважныя Богам
Тварыць дабро
Пад сонечным крылом.
Чаму ж нас шмат,
Пасколатых, як глогам,
Наўмысна створаным
між намі злом?

Хто творца зла,
што ў свет наш забадзяжыў,
Сумлення
Адцураўшыся свайго?
Хто і каго
На зло упаўнаважыў,
Галоўнае пытанне —
для чаго?

Мы, быццам бы —
дабра адзінаверцы,
Усе зямляне —
ад адной зямлі.
Адкуль жа зло
пранікла ў нашы сэрцы?
Як гэта
Не заўважыць мы маглі?

Ёсць прымаўка,
вядомая спрадвеку,
Маўляў, з'еш хоць вала —
адна хвала.

У нават самым
        добрым чалавеку
Затоены
Ўсё роўна віру зла.

Мы любім шчыра
        й ненавідзім шчыра,
Мы творым зло
        адкрыта й спадцішка.
Адна рука —
        працягнута для міру,
А вось другая —
        з кулаком рука.

## Самападман

Жывём мы богаўгодна і бязбожна
Штогод у весялосці і бядзе.
А паралельна з намі й спадарожна
Ідзе жыццё й смерць кожнага ідзе.

Жыццю — падзякі нашы і ухвальнасць,
Й праклёны пад гарачую руку.
А смерць, як нерэальная рэальнасць,
Далёка недзе ад жыцця ў баку.

Далёка недзе?
Думкай багацеем.
Хоць мала ўцехі з гэткім багажом.
Самападман — як па душы алеем,
Самападман — па сэрцы, як нажом.

# Заручоныя з марай

Дарогі, што вабяць з маленства
ў прастору жыцця — не забава.
А як жа хацелася ведаць,
Што будзе на кожнае з іх.
І ад невядомасці гэтай
рабілася сэрцу надзвычай цікава —
Адкрыць таямніцы дарог
Кожны марыў наўздых.

І кожны быў з марай сваёй
назаўжды заручоны,
І кожны хацеў след пакінуць
на ёй, неадкрытай зямлі.
Былі мы у марах —
Калумбы, Ікары,
Былі Рабінзоны,
А ўвогуле ў нашым юнацтве
мы ўсе летуценна жылі.

Цікава было! Ой цікава
чакаць з невядомым сустрэчы,
Калі паварот, а за ім — Што за ім?
Таямніцы сцяна…
А сёння дарога адна прада мной
упіраецца ў вечар
І мне ўжо вядома,
куды ўсіх прыводзіць яна.

## Што тут благога?

Адкіну сціпласць…
Хацеў я спадабацца
Дзяўчатам — знешнасцю,
            надзейнасцю — сябрам.
Каб быць сваім —
            бывала, пасля працы
То з тым, то з сім
            закідваў па сто грам.

Што тут благога?
            Прыемна быць прыемным,
У калектыве,
            які завём сям’ёй.
Ў сістэме —
Можна жыць і безсістэмным,
Галоўнае —
Каб быць карысным ёй.

І чытачу
Я спадабацца рады,
Й калегу,
Хто ў спіну нярэдка б’е.
Душа згарэць гатова без ашчады,
Каб толькі полымя
            заўважылі яе.

## Не хочацца

Чаго б яшчэ
Хацеў я ўзяць ад часу?
Хоць трохі часу,
пакуль іду ў гару.
Ён трэба
Не для сквапнага запасу,
Не проста жыць,
А жыць, пакуль твару.

Баюся штось пачаць
і не завершыць
Не дапісаць
Апошняга радка.
Не хочацца, каб раптам
на паўвершы
Спынілася пісаць
Мая рука.

# Памылкі

У школе,
Сям'і,
Нас вучылі нязменна
Свой шлях самастойны
шукаць у жыцці,
Каб кожны мог
адукаваным, пісьменным,
Да мэтаў сваіх
без памылак ісці.

Памылкі у школе —
на дошцы, у сшытках,
Спраўлялі настаўнікі,
дома — бацькі.
Нялёгка даваліся
Ведаў здабыткі,
Лягчэй — пасля бацькавай
з дзягай рукі.

Які гэта гонар
пісаць без памылак!
А малапісьменнасць людзей —
цёмны лес.
Цяпер чалавецтва —
у ведах асілак
І з ім —
Навукова-тэхнічны прагрэс.

На маці-Зямлі
не бывае зацішша,
Буяніць,
Драпежнічае чалавек.

Хтось малапісьменны
гісторыю піша —
Вунь колькі памылак
ад веку у век.

Напэўна,
У малапісьменных пісакаў
Няма ні настаўнікаў
і ні бацькоў…
Вунь зноў на зямлі
хтосьці горка заплакаў —
Крывавяць радкі
на старонках вякоў.

# Не адкруці́цца

На адметным нейкім рубяжы
З запытам да нас сумленне прыйдзе:
— Праўду распіналі на крыжы —
Вы чаму маўчалі?
Вы былі дзе?

Сёння вы сярод сумленных, тут,
Маеце і выгляд ганарлівы.
А калі бязвінны йшоў пад суд,
Вы тады маўчалі.
Дзе былі вы?..

Бачу заклапочанасць на лбе,
Дадатковы доказ непатрэбны.
Нам не адкруціцца ад сябе,
Мы агучым свой прысуд сабе —
Або гонар,
Або слуп ганебны.

## Ёсць людзі

Уявіць немагчыма —
Не злавала зіма.
Люты ж ляснуў дзвярыма,
Проста спасу няма.

Маразы аж за дваццаць,
З рыбы мех — паліто.
Дзе нам?
Дома схавацца,
А за вокнамі хто?

Спасу птушкі шукаюць
І сабакі, й каткі.
Пад сябе падціскаюць
Лапкі ў холад такі.

Смерць за вокнамі блудзе,
Чыншу прагне свайго.
Дзякуй Богу, ёсць людзі,
Сэрцы ёсць у каго.

*24.02.2018*

## Грэла кроў

Як я любіў застольны тлум радні,
Дзе п'ецца за кампанію і есца,
Дзе пустазвонь, жартуй або мані —
Усё разумна, весела, да месца.

Дзе тост такі звычайны: «Будзь здароў!»
Гучаў і пранікнёна, і ласкава.
Нас келіх весяліў,
А грэла кроў —
Кроў родная — насупраць, злева, справа.

Як холадна мне сёння за сталом,
Анідушы — насупраць, справа, злева.
Слязою запіваю ў горле ком —
Ні пустазвонства,
Ні маны,
Ні спева…

# Душа прыроды

Якую трэба мець душу
Малой сінічцы,
Каб перапець вялікі шум
І рытм сталіцы.

Раве, гвалтуе горад-гмах
Без перадыху,
Ажно закладвае ў вушах —
Неразбярыха.

Праз горы гэтай гвалтаўні,
Праз гул машынны,
Аднекуль тоненька звініць
П-і, п-і-і — няспынна.

Ёй дэцыбелы, хоць іх шмат,
Не перашкоды.
Перамагае шум і чад
Душа прыроды.

# Рот памяці

Чаму так мала
Хронікі ваеннай?
І дзе
Дакументальнае кіно?
Хтось забываць пачаў
Пра час страшэнны,
Пра тое, што было
Не так даўно.

О, на святую памяць
Час няўдалы!
О, тэлебездухоўнасці
Парад!
Занудзістыя
Тэлесерыялы
Часцей гучаць,
Чым подзвіг твой,
Салдат.

Угледзьцеся
Ў салдат вайны той твары,
Адчуйце іх
Самаахвярны лёс.
Ён па зямным,
Крывёй залітым шары,
Сцяг Перамогі
Наш салдат пранёс.

Жыццё і смерць
Не раз ён клаў
На шалі,
Ў атацы гінуў,

Смерці слаў праклён,
Ён у агні гарэў,
Але ўставалі
На яго месца
Гэткія, як ён.

Такія, як і ён,
На ўсёй планеце
За мір плацілі
Страшную цану…
А сёння,
Інтэрнэтных гуляў дзеці
Ці чулі,
Што загінуў
Кожны трэці
Ў Вялікую Айчынную вайну?

Адкуль ім ведаць?
Зноў папрокі сею
Ў закрыты
Ідэялагічны рот,
Калі да даты нейкай,
Юбілею,
Пра подзвіг той
Нам скажуць
Раз на год.

Пра подзвіг
Неуміручы і вялікі,
Пра Перамогу —
Падзею ўсіх падзей.
Салдаты ж гінулі
Штодзень,
Без ліку,

І не чакалі
Нейкі юбілей.

А партызаны?
А геройства ў тыле?
Канцлагеры,
Падполлі —
Ўся і ўсе.
Усе яны
Ў адной вялікай сіле
Дзень светлы
Набліжалі пакрысе.

Не, не забылі мы
Ні на імгненне
Ахвяры й перамогі
Страшных год.
А вось для іх,
Для новых пакаленняў,
Часцей бы памяць
Раскрывала рот.

## Крылы

Душа і сэрца —
крылы два арла,
Над хмарамі
лунаюць святакрыла.
У творчасці душа
свой лёс знайшла,
Паэзія — і сэрца прытуліла.

Хто з крыламі —
бязмежнасці ўладар,
Ён, летучы, ўвесь свет
да сэрца туліць.
Які гэта цудоўны
Божы дар —
Другіх сваімі творамі акрыліць.

## Пытанні... пытанні...

Калі ў агні гараць
ці паміраюць дзеці,
Ці робяцца ахвярамі дарог,
Крычыць пытанне:
— А ці ёсць дзе ў свеце
Ахоўнік богаўгодных лёсаў —
Бог?

Магчыма, задаваць пытанне —
і блюзнерна
І нават думаць пра такое —
Грэх?
Дзе ён і хто —
адзіны і надзейны,
Ад жорсткасцяў жыццёвых
Абярэг?..

*25 сакавіка 2018 года*
*ў Кемерава згарэлі ў агні*
*64 чалавекі, з якіх 41 — дзеці.*

## Таямніцы сакрэт

Дзеду й бабе не спіцца,
прыселі на лаўцы ля хаты,
Зверху месяц, як човен,
які ў цёмным небе плыве.
Цішыня і спакой —
нібы вушы закладзены ватай,
Толькі думкі-ўспаміны
вiруюць у іх ў галаве.

Сярод гэтай чароўнай,
прыцішанай цемраю тайны,
Чуцен голас старой,
нараджаючы словы наўздых:
— Глянь на месяц, стары,
ён нібыта пастух той нядбайны,
Што на пашы нябеснай
распусціў статак зорак сваіх.

Дзед уверх паглядзеў,
і на бабу зірнуў запытальна:
— Ты убачыла зоркі,
а між імі пастух залаты.
Неба — дзіўны сусвет,
неба — гэта вялікая тайна,
Я там бачу другое,
чым зараз убачыла ты.

Неба зорнае — дах,
А пад сонцам, ён дах гэты, новы,
І пад ім мы жывём,
як і продкі прайшлі праз вякі.

Пэўна, неба даўно бы
звалілася нам на галовы,
Каб не ўбітыя Богам
пазалочаных зорак цвікі…

Лёс нялёгкі старых,
мусіць, ён не такі ўжо і горкі,
Калі баба і дзед
успрымаюць душой гэты свет.
Дажываючы век,
Не пад ногі глядзяць, а на зоркі,
І спрабуюць раскрыць
таямніцы далёкай сакрэт.

## Нібы ў яме

Было вясковае шматлюддзе,
Запал душы — нябёс вышэй.
Мне дыхалася на ўсе грудзі,
Усмешылася — да вушэй.

І сярод тых гадоў галодных
Было надзей і мараў шмат
Было вакол людзей мне родных,
Сяброў — за лёсу далягляд.

А сёння ў полі я не воін,
На полі лёсу — я адзін.
І смех мой сумам упакоен,
І ў горле часу комам блін.

Аблога думак — нібы ў яме,
Мяне ўспаміны долу гнуць.
Магу я поўнымі грудзямі
Не дыхаць — толькі уздыхнуць.

## Калючкі і адзінкі

Пустое сэрца, як пакой,
Ў якім няма нікога.
Ад безнадзейнасці такой
Не прыйдзе дапамога.

І ля душы, ў каторай лёд
Сагрэцца не удасца.
Нявер’е ў высакосны год
Не абяцае шчасця.

А колькі сэрцаў!
Колькі душ
Ратуюць нас ад бедстваў!
Калючкі — не зняважаць руж,
Адзінкі — чалавецтва.

## Пачынаецца дзень

Дрыготкае ранне,
Калючая сцюжа,
На покрыве снежным
                віхляюць сляды.
Прамерзлыя,
Нібы зашклёныя лужы,
І людзі, як здані —
                туды ды сюды.

З карнізаў дамоў,
                бы застылыя чары,
Вісіць ледзяшоў
                вастразубы крышталь.
Няспешных машын
                перакрэсныя фары
Павольных сняжынак
                высвечваюць баль.

Дрымотныя дрэвы
                стаяць заінела,
Іх снежныя шапкі
                крыху набекрэнь.
Расхмарыла неба
                абшар свой, віднела,
Рухавасць вакол —
                пачынаецца дзень.

## Пакой без вокнаў

Жыццё пражыў,
як розум вёў мяне,
Як ускладнялі шлях
мае пачуцці.
Спакусы віравалі
ў кожным дне,
Ўцякалі ўдачы
кропелькамі ртуці.

Юнацтва —
Безпрасветнае было,
Пакой без вокнаў —
дзе ўваход, дзе выхад?
І ўсё ж надзеі
кволае святло
Мне дазваляла
і ў бязвыйсці дыхаць.

Я марыў,
Марыў,
Марыў — аб усім,
На мары
Не ўплывалі забароны.
Жыццё — дзяўбло,
я ж захапляўся ім,
Быў неўзаемна
у яго ўлюбёны.

Надзея й вера,
і любоў мая
Да ўсіх —
мяне ў юнацтве ўратавалі.

Ў жыцці складаным
не згубіўся я,
Мяне не паглынулі
й лёсу хвалі.

І праўду кажуць —
грош таму цана
Хто не жыве
з жыццём адзінакроўна.
Я за любоў
адораны спаўна
Жыццём —
Надзённым хлебам
І духоўна.

# Чорная паласа

Высахнуць не паспела сляза,
А трагедыя новую родзіць.
Чорная паласа
Зацягнулая, не праходзіць.

Апрыходваў боль душу,
Дзе яна, ад каго падмога?
Я у Бога адно прашу…
Не, не зменіць і ён нічога.

*26.03.2018*

## Галоўнае пытанне

Я ўсе пытанні ўплёў
у адно пытанне,
Каб атрымаць за раз
на ўсё адказ.
Адказ на ўсе пытанні — ратаванне,
Якое праўдай ці ўратуе нас?

Бывае праўда горай самасуда,
А самасуд не паляпшае свет.
Ці ўратаваў адказ каго,
што Йуда
Ісусу здрадзіў з-за пустых манет?

І свет разумны не прыдумаў сродку,
Які ад нас пытанне адхіне:
Ці мы ідзём у іншы свет да продкаў
З павагай да сябе?
Ці ўсё-ткі не?

## Роздуму пара

Роздуму пара,
Непазбежна ўсіх —
Ўсіх тады
Наведвае людзей,
Калі бурны вецер
Жыццятлуму сціх
І ўляглася ў штыль
Вада падзей.

Урачысты,
Сумны,
Светлы роздум мой
Атуляе
Сэрца спакваля.
Так прыціхлы лес
Стаіць перад зімой,
Так сумуе
Прад зімой зямля.

Колькі летаў, колькі
Праляцела зім,
Ды яшчэ наперадзе
Адна.
Роздуму пара —
Думаць ёсць аб чым,
Роздум —
Як апошняя вясна.

Колькі іх, падзей,
Колькі вас, людзей,
Давялося з кім
Праз лёс ісці.

Колькі за жыццё
Згублена надзей,
Колькі шчасця
Знойдзена ў жыцці.

Роздуму пара,
Будзь са мною, будзь,
Сэрца
Успамінамі крані.
Толькі б у былым
Штосьці не мінуць,
Ў блізкай сэрцу
Той далечыні.

# Мы ці яно?

Жыццё — не Алімп,
хоць узносіць высока,
Й ні пекла жыццё,
хоць абрыне уніз.
Ад першага —
І да апошняга крока,
Яно — непрыемны
й прыемны сюрпрыз.

І гэта прымае ўсё
лёс на рахунак,
Дарункі жыцця —
ружы й шышкі на лбе.
А мы?
Ці занадта ўжо мы падарунак
Жыццю-падарунку,
другім і сабе?

Жыццё — не Алімп,
Бо Алімп для абраных,
Для большасці ўсё-ткі,
Жыццё, як плато.
Ёсць месцы, куды
не чакаюць нязваных,
І нават у пекла —
яно нам нашто?

Па кроплі жыццё
прапускаем праз сэрца,
На хвалях яго —
мы то ўверх, то на дно.

Жыццё нам не ўласнасць,
хоць нашым завецца,
Мы ім не валодаем —
намі яно.

І хоць мы ў жыцці
ладзім розныя змены,
Спрыяем ці шкодзім
настрою свайму,
Ніхто з нас не ведае,
Колькі яшчэ нам
Валодаць жыццём
ці ўсё ж намі яму.

## Гмахі-гады

Як сябар наўдалы
Знікае з жыцця ў нікуды,
Як хвалі аб скалы,
Лёс б'ецца аб гмахі-гады.

Ўсе нашы намеры
Абнульваюць гмахі-гады.
Адчынены дзверы
Для кожнага з нас
Ў нікуды.

# Воз

Нялёгкі ён,
Праблем жыццёвых воз,
Адны скідаеш — зірк! —
        аж поўна новых.
На ім у кожнага —
        свой час для слёз,
І меншы час для радасцяў жыццёвых.

Дыхнеш —
І упрагацца мусіш зноў
Насустрач новым радасцям і слёзам.
О колькі па жыцці наломіш дроў,
Між іншых прадзіраючыся з возам.

Цяжэе воз — і чалавек знямог,
Ледзь тахкае знясіленае сэрца.
І валіцца ён без дыхання з ног,
А воз, праблемаў поўны —
Застаецца.

## Два светы

Свет, створаны Богам,
і людзі ў ім Божыя,
І свет, што ўва мне,
што ствараў я старанна,
Яны непадобныя,
нават варожыя,
Два антаганісты,
ім ладзіць складана.

Які з іх галоўны?
І што ў іх галоўнае?
Чаму ў не галоўных
галоўныя ролі?
Свет, створаны Богам,
магчымасці роўныя.
Хоць дзеці мы Бога,
не дасць нам ніколі.

Пытанні адвеку,
шуканні нястомныя
Адказу
на незразумелае гэта —
Свет, створаны Богам,
а ў ім сілы цёмныя
Канец набліжаюць
нявечнага света.

Свет, створаны Богам?..
ў ім шмат дызгармоніі,
Бо шчасце і жах —
не гармоніі дзеці,

Бо глухне
Людская душа ў какафоніі
І сам чалавек,
ў гэтым жудасным свеце.

А што адбываецца
ў свеце, мной створаным?
Парадкі і згода?
Спакой і ўлюбёнасць?
І ён дызгармоніяй
шчодра адораны,
І ў ім супярэчлівых спрэчак
Бяздонне.

Затое не зменіцца
свет мой унутраны
Ад нечай пагрозы
ці ласкі — ніколі.
Ён узбагаціцца
ці будзе разбураны
З жадання майго
па маёй толькі волі.

## Куды ногі несці?

Дзе бывае шчасце?
Куды «ногі несці?»
У патрэбны часе,
Ў неабходным месцы.

І душа жывая
У пошукаў блудзе.
А яно ж бывае
Там, дзе нас не будзе.

Са сваім мы лёсам
Штосьці шукаем, скачам.
Шчасце мо пад носам,
Мы ж яго не бачым.

## Перасяленне душ

Зіма чакае нас
　　　　　пасля смугі асенняй,
Мы целам — на клады,
　　　　　а вось душа куды?
І нават калі ёсць
　　　　　душы перасяленне,
Нікому б не жадаў
　　　　　сваёй душы-бяды.

Я адпакутваў век
　　　　　без сну і без спакою,
Ў кіпенні хваляў-спраў
　　　　　былі гады і дні.
Нікому б не жадаў
　　　　　жыцця з душой такою,
Бо гэта не жыццё,
　　　　　а кіданні ў агні.

Жыццё — кароткі час,
　　　　　душа свой век бязмежыць,
І не ўсё-роўна нам,
　　　　　што будзе пасля нас.
Перасяленне душ
　　　　　ад нас хоць не залежыць,
Мы ім жадаем жыць
　　　　　у больш прыстойны час.

## Быў час...

Я маладым быў,
Сэрцам чэрпаў
З жыцця натхненне —
дні, гады.
І мноства мараў,
безліч мэтаў
Ажыццяўляліся тады.

Што б ні рабіў —
было ўсё мала,
Што б ні пісаў —
браў з сэрца слоў.
Тады яго перапаўняла
Надзея,
Вера
І любоў.

Жыцця майго
быў рытм шалёны,
Імчаў мяне,
Як вецер-конь
І я, каханнем блаславёны,
Гатовы быў хоць у агонь.

Мой лёс імчаў
няспынным лётам
Насустрач вёснам маладым.
Спачатку крок —
развагі потым,
Учынак — а адказ затым.

І не шукаў я
гладкіх, роўных,
Ужо пракладзеных дарог.
Быў час
Адчайных і чароўных
Памылак,
Гульняў,
Перамог.

А сёння —
Чэрпаць дзе натхненне?
А калі нават ёсць дзе —
Чым?
Бо ў сэрцы — прыцемак, зацьменне,
Й паўнютка-поўна
Суму ў ім.

## Узнагароды наўздагон

Узнагароджваць
Трэба маладых —
Таленавітых па жыцці,
Рухавых.
Узнагарода
І апошні ўдых
У адзін дзень —
                дакор табе, дзяржава.

А ён ішоў да мэтаў
Напралом,
Пакінуў за сабой
                гадоў алею.
Ён Гулівер у творчасці,
                не гном.
Ах так!
Табе медальку ці дыплом
Чыноўнікі дадуць
Да юбілею.

Ці пакладуць
Запознена ў труну —
Прабач,
У іх нарады і фуршэты.
Пасада
Не залічыць ім віну,
Тым болей, што
Пакінуў свет ты гэты.

Ах, што за чалавек
Быў сярод нас! —
Ва ўсе часы

Кусаюць локці жалю.
А потым і другіх
Праз пэўны час
Жалобна
Наздагон успаміналі,
І у труну
Узнагароды клалі.

Узнагароды
І апошні ўдых —
Чыноўніцтва
І матухна прырода.
Узнагароды…
Хто прыдумаў іх?
Ці ж талент Божы —
Не узнагарода?

## Зорачка надзеі

У самай безнадзейнасці адчайнай,
Калі нідзе не дзецца ад яе,
Надзеі промнік,
 як пасланнік тайны,
Як дабрыні анёл выратавальны,
Нам пахіснуцца духам не дае.

Няўдачаў халады,
Інтрыг завеі,
Тугой пятлёй бязвыйсце душыць нас,
А ў чорным небе зорачка надзеі
Высвечвае нам ратавальны шлях.

Мы б без надзейных гэтых памагатых
Не шмат перамагалі ў барацьбе.
Мы зведвалі б радзей
 удачаў святы,
Часцей лічылі б шышкі на ілбе.

## Да наступнага юбілею

Вечар цепліцца —
Ледзь-ледзь,
Захад цэдзіць
Ружовасць алею.
Не імкнуся я
Дарыпець
Да наступнага
Юбілею.

Дажыву —
Дык нап’юся ўдым
І засну
Сумнай мордай на блюдзе.
Ах, як радасці
Мала ў ім,
Яшчэ меней
Цікавага будзе.

Юбілей —
Нібы цень на сцяне,
У сучасным —
Мінулага здані.
Смешна.
Ўхвальванні слухаць мне,
Горка будзе
Ўспрымаць віншаванні.

Цераз гэта
Я ўсё прайшоў,
Ўсё было,
Ўсяк было —
Напаміне.

Не успеніцца
Чутым кроў,
Ад вачэй спачувальных
Прыстыне.

Што ж, ад лёсу
Не дзецца нідзе —
Што наперадзе?
Сум?
Святкаванне?
Што гадаць,
Калі курка ў гняздзе,
А яечка ці будзе?
Пытанне!

## Жах званка

Я набіраю нумар тэлефона
І слухаю —
Гудкі…
Гудкі…
Гудкі…
Гукаюць то напружана, то сонна,
Імгненні паміж імі, як вякі.

Яны гудуць спалохана, няспынна,
Нервова цісне тэлефон рука…
Спатрэбілася цэлая хвіліна,
Каб зразумеў я
жах свайго званка.

Чатыры месяцы не чуўся з братам,
Яго няма — заві ці ні заві.
А я ж хацеў павіншаваць са святам,
Прывычка гэта назаўжды ў крыві.

*23.02.2018*

## Не дай Бог!

Душы быць вечнай?
Не дай Бог!
Больш лютай кары не бывала.
Пасляжыццёвы некралог
Ёй пры жыцці жыццё складала.

«Ты адпакутвала свой час
Аддана — разам з грэшным целам.
За годам год,
За разам раз,
Прымала ўсё і ўся ад нас,
Ўвесь боль, хоць адпачыць хацела.

Хай цела у зямлі ляжыць,
Яму нішто не дапаможа.
Ты б не змагла без болю жыць,
Засні і ты пад ласкай Божай».

## Аджыў і згас

Што́ ёсць свет часовы наш?
Нацый антысімбіёзы?
Фарс трагічны?
Сон?
Калаж?
Ці камедыя праз слёзы?

Шлях наш коўзкі, непрамы,
Накіроўвае куды нас?
Гэты свет, і ўсё, і мы,
Аджываем і — на вынас.

Свет былы аджыў і згас,
Зніклі з ім і тыя людзі.
Колькі нас было да нас…
Пасля нас жа — нас не будзе.

## Раскрыў бы Гамлет рот

Спыніць не ўдасца
    матылька нікому,
Імкліва да агню
    які ляціць,
І праз імгненне
    аддае якому
Жыццё…
Адказ на запыт —
    быць альбо не быць?

Праз смерць сказаў ён «быць!» —
І без ваганняў…
Раскрыў бы Гамлет
    ад здзіўлення рот.
Эх, нам бы
    за свае перакананні,
За праўду —
    у агонь, на эшафот.

## Нязменнае меню

Дні варочаюцца, як жорны,
Перамолваюць зерне падзей.
Выпякае час сум наш чорны,
Белай радасці хлеб радзей.

І на крайчык надзей,
              як на лаву,
Сціпла месціцца стомлены лёс.
І у думак счарнелую каву,
Замест цукру — гаркоціну слёз.

Ноч ідзе — мала ёй даверу,
Сэрца цешыцца кожнаму дню.
На сняданак і на вячэру
Не мяняецца ўжо меню.

## Кансерватыўны густ

Адна мелодыя штогод
Гучыць у нас.
Спяваць развучыцца народ
Праз хуткі час.

За фестывалем фестываль —
Ды свет, як клін
На кожным з іх спраўляе баль
Матыў адзін.

Шмат кампазітараў, ды ў вус
Не дзьмуць яны.
У нас кансерватыўны густ,
Без навізны.

## На вякі

Ў маленстве далёкім
        і ў старасці блізкай,
Заўжды за якой надыходзіць зіма,
Я чую, як мама пяе над калыскай,
Хоць зыбкі няма той
І мамы няма.

А той калыханачцы не перашкоды
Падзеі,
Гады,
І бяда,
І нуда.
Яна ў маім сэрцы,
        са мною заўсёды,
Яна для душы, як жывая вада,

Як незамутнёных ўспамінаў крынічка,
Як з мамай пяшчота —
        шчака да шчакі.
Жыццё маё згасне някідкаю знічкай,
А вось калыханка ў жыцці —
На вякі.

## Судны час

Мы штогод у жыцці
　　　　ўспамінаем радзей і радзей,
Што зямля нас і корміць,
　　　　і поіць ад веку у век,
Што зямля нам не служка,
　　　　шар Зямны не уласнасць людзей,
Што на ёй —
　　　　кропля ў моры жыцця чалавек.

Што ў жыцці чалавек —
　　　　над прыродай не злосны асілак,
Ён зямлі не ўладар,
　　　　а дзіця, а часцінка яе.
Чалавецтва зрабіла памылку —
　　　　памылку памылак,
Як вампір той, што кроў
　　　　парадзіхіну п’е.

Шар Зямны не пацерпіць далей
　　　　чалавека-пралазу,
Зменіць літасць на кару,
　　　　якую абрыне на нас.
Ой, прыцягне зямля
За вар’яцтва людзей да адказу!
Не міне прагавітых людзей
Судны час!

## Сярод продкаў і год

Пячаць майго смутку,
жыцця бліскавіца,
І шчасця імгненні —
не лепшы мой твор.
Жывеш —
І не можаш ніяк надзівіцца,
Як хутка пралог
нам насустрач імчыцца,
І ўжо недалёка —
драўляны убор.

Мінулае душыць
сучаснасць за горла,
А будучыня —
суне ў колы ражон.
І ўсё-ткі жыццё
Не прайшло,
Не памёрла,
Хоць быць ці не быць
час паставіў на кон.

І ўжо ў лабірынце
надзей неласкавых
Губляю кірункі
Дарог-безнадзёг.
І самі мяняюць
каней пераправы,
Якія, й мяняныя,
валяцца з ног.

У думках, у марах,
з нас кожны галёкаў

Мінулае клікаў,
як маці дзіця.
Куды ўсе дарогі вядуць?
Да вытокаў
Маленства,
Юнацтва,
Кахання,
Жыцця.

О родны мой кут,
ты на месцы пачэсным
Ў бязмежжы душы,
сярод продкаў і год.
Я тут, на Радзіме Малой,
Уваскрэсну
І вершам удзячным
адчую узлёт.

# Ноч пяшчоціцца

Месяца святло
На начной вадзе
Ззяе, як вясло,
Цемра прэч ідзе.

Соннай рэчкі плыць
Пад лазы кустом,
Зноў казыча лінь
Залатым хвастом.

Пэўна, ў ліня жор,
Не да сну яму.
Руціцца й бабёр,
Перажыў зіму.

А на глыбіне
Сом ляноціцца.
Хтосьці спіць,
Хтось не —
Ноч пяшчоціцца.

# Туга

Гадам маім паношаным вядома
Сіл пазбаўленне (восень — не вясна).
Туга ж мая не ведае ні стомы,
І ні бяспамяцтва
Не ведае яна.

Во скула!
Во назола!
Во тырання!
Апошні час прадыху не дае.
Грызе і нудзіць
              з рання і да рання —
І павялічваецца моц яе.

Туга-злыднюга, як старая дзева,
Нібы быльнёг, уссеўшы на раллю.
Вось так ад шашалю
              і парахнее дрэва,
Пакуль зусім не рухне на зямлю.

## З чым параўнаць?

З чым можна параўнаць
Расчараванне?
Адказ пытаннем
на пытанне: — Ў чым?
Балючае расчараванне
у каханні,
Калі ні слоўмі —
сэрцамі крычым.

Расчараванне ў сябры
больш балюча
І душы раніць,
і бянтэжыць нас,
Калі наш «сябар»
сябраваў выключна
Для дасягнення выгады —
На час.

Калі мінаюць
маладыя вёсны
І зімка не дае
далей ісці,
Балюча!
Ой балюча!
Невыносна!
З гадамі
Расчароўвацца ў жыцці.

Жыццё —
Ці маладому, ці старому
Наставіць процьму
шышак на ілбе.

Галоўны ж боль —
 не дай Гасподзь нікому
Самім разачароўвацца ў сабе.

Дык з чым
Расчараванню пераўнацца?
Самім з сабою,
 як з бядой бядзе.
Жыццё на свеце,
 ад свайго зачацця
З расчараваннем
Праз вякі ідзе.

## Юбілей

Я на гэты юбілей да брата
Не дамоў прыехаў — на клады.
Ах, які б быў сёння стол багаты,
Каб не ўседазволенасць бяды.

Як бы, Косцік, віншаваў цябе я!
Як бы славазвоніў ты ў адказ!
Сёння толькі гэта думка грэе,
А сляпой трагедыі завея
Вые, стогне болем паміж нас.

Думкамі з табой стаю ў абдымку
Тут, дзе вечнасць, дзе твой вечны сон.
Свет пусты — і ты на фотаздымку,
Ды і той, скрозь слёзы, зыбкі ён.

Фотаздымак кратаю халодны,
Гаркату ўспамінаў сумна п'ю.
З круглым юбілеем. брат мой родны —
Незапрошаны я тут стаю.

*15.02.2018*

# Знаёмства

Яна напачатку аднеквала штосьці,
Дэвіз яго:
«Ўбачыў, прыйшоў, перамог!»
Яе абяззбройваў сваёй прыгажосцю,
Ды ўрэшце, усё усталёўвае Бог.

Яна баранілася безабароннасцю,
Уся яе зброя —
            чароўны пагляд,
Яна «адступала»,
Здавалася з годнасцю,
І гэта ўжо быў
            ледзь прыкметны напад.

Напад быў праверaны
І безадказны —
Далей адбывалася ўсё,
            нібы сон.
І ён, як лічыў сябе,
            рыцар адважны,
Патрапіў да чар
            непрыкметна ў палон.

## Эмоцыі і мары

Запал эмоцый не патух, ды ён,
На жаль, ужо не апячэ нікога.
Гады — яшчэ не памінальны звон,
Хоць іх зашмат.
Яны — дарунак Бога.

І мары не пакінулі, але
Ім, знічкам, сёння
значна менш даверу.
І што высока на адным крыле
Узняцца давядзецца —
зноў не веру.

Затое свята веру, што яны
Не схалануць маёй душы абшары,
Жалобы памінальныя званы,
Пакуль са мной эмоцыі і мары.

## Рай ці пекла?

Сярод падзей мінулых, дат,
Маіх уласных і дзяржавы,
Я, як музейны экспанат —
Жывы — і гэтым не цікавы.

Малаўцяшальны час сівы,
Скупы на памяці ліміты.
Я — не цікавы, ды жывы,
А потым — не жывы й забыты.

Вось тут што хочаш выбірай,
Пытанні бізунамі секлі —
Альбо з жыцця ў забыты рай
Ці лепш жывым пабыць у пекле?

## Супраць!

Ў залу, паўнюткую
Людам цікаўным,
Сам сацыёлаг
прыйшоў на спатканне,
Пераправеранымі
Метадам даўнім
Здзейсніць,
Правесці сваё апытанне.

Ён запытаўся:
— У час гэты новы,
Ведаць хачу я:
Супраць чаго вы?

— Я дык гандлюю
Зімовым адзеннем,
Голас пачуўся
Упэўнены, звонкі,—
Супраць
Глабальнага я пацяплення,
Дзе тады дзець
Паліто і дублёнкі?

Чуецца голас
Аратара новага:
— Мной выпрабляюцца
плаўкі для пляжа.
Супраць
Перыяду я ледніковага,
Ў іх нават дурань
На снезе не ляжа.

Раптам стары
Сваё «супраць» агучыў,
Выклікаў рогат,
Як кажуць, лячэбны:
— Я супраць секса! —
Сказаў дзед рашуча,—
Лішні ён сёння!
Каму ён патрэбны?

Хтосьці устаў,
Захістаўся, як колас,
Высмаркаў нос свой пунцовы
Ў хусціну:
— Супраць сухога закона
Мой голас,
Я без гарэлкі
Сандалі адкіну.

І сярод гэтага
Шуму і звону
Нехта падняўся
У татуіроўках:
— Супраць парадку я!
Супраць закону!
А асабліва —
Супраць ментоўкі!

Хтосьці прыцішана
З месца прамямліў:
— Супраць я
Дзецям плаціць аліменты!
Хопіць таго,
Што пры дзецях ёсць
Мамы —

Я ні капейкі не дам ім,
Ні цэнту.

Раптам жанчына
Сказала дасужа:
Я, у сямейным жыцці,
Супраць мужа! —

І дадала
Ўсхвалявана і з болем:
— Два трэба сёння мужы,
Нават болей,
Бо сёння муж —
Адна назва, мужчына,
Ёсць ён ці не —
Зразумець немагчыма…

Шмат яшчэ чулася
Сумных, вясёлых
Розных выказванняў,
Згоды,
Нязгоды.
Што ж пры сустрэчы
Адкрыў сацыёлаг?
Супраць — ніхто,
За — як заўсёды.

## Немагчымасць

Калі застаецца жыццё за плячыма
І Бог адыходную ставіць пячаць,
Душой разумеем, штó ёсць немагчымасць —
Ні смерці, ні старасці супрацьстаяць.

І думкамі мы, і душой, і вачыма,
Гатовы імчаць у апошні свой бой.
Але натыкаемся на немагчымасць,
Якая наш свет закрывае сабой.

Мы, колісь аматары руху, экстрыма,
Адчулі пасля «нам усё па плячу»,
Як розняцца словы «магу» й «немагчыма»,
Як цяжка развітвацца праз не хачу.

## Сабутэльнік

Давай, люстэрка, вып’ем…
Будзеш ты
За сабутэльніка
І суразмоўцу,
Бо я адзін,
пайшлі з жыцця браты
Туды, дзе спяць бацькі
й аднавяскоўцы.

Я наліваю келіх
Свой і твой,
Прыемны мне,
а не табе, напітак.
Ў цябе прашу адно —
насупраць стой,
Ў сабе трывай
нахабны мой адбітак.

Ну, будзь здарова!
Звон ўзаемны шкла
Прыемна далучаецца
да тосту.
Былых застолляў
радасць адгула,
А аднаму «гудзець»
зусім няпроста.

За нас з табой!
Які туман густы
У галаве.
І на душы няміла.

Я зноў кульнуў,
а штось пацееш ты —
А што за запацеласцю
за рыла?

Гані з сябе
адбітак брудны вон!..
Зноў п’ю за нас,
за нас і тост мой палкі.
Я чокнуўся і —
шкла пачуўся звон,
А рыла і люстэрка —
на кавалкі.

## Лекі мае

Я сёння не маю
хвіліны ніводнай,
Якая б ад болю свабоднай была.
Мне чуецца покліч
крыві маёй роднай,
Якую святая зямля прыняла.

І я ўсхвалявана да могілак еду,
Што святасць для сэрца
майго набылі.
Вяду там у думках
з мінулым бяседу
І гутару з тымі,
хто спіць у зямлі.

І гэтым душу спадзяюся аблегчыць
І гэтым спадзевам нявечу яе.
Збалелае сэрца —
збалелым не лечаць,
А боль і ўспаміны —
ўсе лекі мае.

## Залатая спадчына

З усяго,
Што маю сёння я,
Сярод мараў збыўных
І нязбыўных —
Залатая
Спадчына мая —
Фатаздымкі родных
Незабыўных.

Некаторым —
Пяцьдзясят гадоў,
Рэдкім фатаздымкам —
Значна болей.
Я тулю бацькоў,
Сястру,
Братоў,
Да душы, да сэрца,
Разам з болем.

З імі я —
І ў той далёкі час,
Й не зусім далёкі —
Я між імі.
Атуляла
І яднала нас
Сэрцаў повязь
Марамі сваімі.

Веру і не веру —
Сон не сон,
Ці ж жыццё
Так хутка праляцела?

Міг жыцця,
Такі кароткі ён,
Быў яскравы,
Сёння — чорна-белы.

Рознае мне лезе
Ў галаву,
Ўласны прадчуваючы
Зазімак.
Сэрца з болем
На кавалкі рву,
Гледзячы
На кожны фотаздымак.

## Адвечнае змаганне

Прыцягненне…
Ці я к яе? Гравітацыя,
Ўсе намеры прынізіць прагне.
Спробваў
Ўсяк ад яе ратавацца я,
А яна долу цягне і цягне.

Алё ёсць моц
не меней магутная
(За заступніцу дзякуй, Божа)
Хто змагаецца з першай, пакутуе,
Тым з зямлі узляцець дапаможа.

І між імі змаганне адвечнае —
Прыцягненне —
То ўніз, то ў неба.
І між імі — жыццё чалавечае,
І таму, што яно нявечнае,
У натхненні, у крылах патрэба.

## Неўпрыкмет

Як імкліва, неўпрыкмет мінулі
Побач з мамай светлыя гады…
Ты пайшла з жыцця,
Мая матуля,
Ўслед мае ўсе святы — назаўжды.

Ты жыла —
І я, жыццём прытомлены,
Адчуваў душою маладосць.
Мне бы толькі ведаць,
што ты ёсць,
Я б не быў сіроцтвам абяздолены.

Доля, ты, без мамы, невясёлая —
Я цяпер —
Як птушка без крыла.
Хай бы — хоць старэнькая,
Нямоглая,
Краталася ледзьве, ды жыла.

## Пралятае міма

Беларуская культура —
беларускасцю багатая,
Самабытнасцю адвечнай
і крынічнасцю народнай.
Калі некаму яна
у грудзях нішто не кратае,
Значыць тоіцца «нішто»
у такіх грудзях халодных.

Бескультурнае жыццё
пралятае жыцця міма,
Беларускасць у каго
не ў пашане, ў заняпадзе.
А заробак плоцяць ім
беларускімі грашыма
Й не Расія — Беларусь
іх трымае на пасадзе.

## Першая вясна

Першая вясна,
Якую я чакаю,
Не чакаючы нічога ад яе.
І сакавіку з красавіком,
І маю
Сэрца ў захапленні ці пяе.

Першая вясна,
Што для мяне ні значыць
Ні эмоцый, ні пачуццяў — нуль.
Першая вясна,
Якую ўжо не ўбачаць
Родныя памерлыя — адтуль.

Славіць Бога цяжка,
Горка слаць бясслаўе,
Калі ў гэтым ёсць яго віна.
Першы раз вясной
Душою не адтаў я,
Першы раз не грэеш ты, вясна.

## Неперможная

Ў жыцці я піў
і піў не мала
Напоі градуснай шкалы,
З сябрамі — да з капыт-павала,
З раднёй інакш — душа спявала,
Гулі святочныя сталы.

О колькі грошай і здароўя
Забраў нячысцік-алкаголь.
Атручваў ім не толькі кроў я,
Я і ў сям’ю закідваў боль.

Мінуў той час загульна-чадны,
Жыву інакш — праз не магу:
Я сёння п’ю напой бясплатны —
Непераможную тугу.

## Не бяда

Спатыкнуўся — не праблема,
Паваліўся — не бяда…
Што далей? — вісіць дылема,
Як над светлым днём нуда.

Справа левых, злева правых
Дадаецца пакрысе.
Быць рухавым між рухавых,
Значыць крочыць, як і ўсе.

Хтосьці хілы да магілы,
Хтось самрэч і ў снах лятаў,
Хтосьці ўпаў, запасіць сілы,
Хтосьці і без сіл устаў.

## Непазбежнасць

Песні сваёй
Наступіў я на горла,
Лёсу узнёсласць
Складала яе.
Лічыцца,
Што прыжыццёва памёрла
Песня, якую
Ніхто не пяе.

Ах, як гучала
Мелодыя гэта
Звонка і шчыра,
Наіўна падчас.
Спетая, ды да канца
Не дапетая,
Песня маўчыць,
Жар мелодыі згас.

Хоць захаваліся
Сілы для ўзлёту,
Неба настрою
Не прыме мяне.
Рыфмы —
Нібыта змярцвелыя ноты,
Ў прозу жыцця
Безнадзейнасць хіне.

Звон памінальны —
Жалобы прадвеснік,
Сёння да песні —
Трагедый сцяна.

Родных маіх —
Як сааўтараў песні,
Болей няма —
Вось і сціхла яна.

Зносіны сціхлі,
Сустрэчы, гаворка,
Святы сумесныя —
Як не было.
Слухаць вакол цішыню
Сёння горка,
Адгаманіла жыццё,
Адгуло.

Ад адзіноцтва
Не будзе збавення,
Гэты прысуд непазбежнасці —
Жуць.
Як бы хацеў я
Хаця б на імгненне
Песню мінулага
Сёння пачуць.

## Тайна

Якую тайну тайн
чалавецтва не раскрыла?
І не раскрые, ні яно,
на жаль, ні кожны з нас.
Чаму вялікі цуд —
жыццё становіцца нямілым,
І нават невыносным
некаму праз час?

Няўжо жыццё ў тупік
вялі гады-манюкі?
Жыў чалавек сабе,
бяды не прадчуваў.
І раптам на сябе
накладваюцца рукі
Тым, хто сваё жыццё
надоўга планаваў.

Адзін трагічны міг —
яго бы пераборацць,
Яго бы пяражыць,
прайсці праз сэрца крык.
І можна жыць далей,
і зноў гады адорацць
Надзеямі на лепшае —
і абмінуць тупік.

О гэты страшны міг,
трагічны і няшчасны
Забраўшы столькі душ
у царства небыцця.

Што прымушае іх
пайсці з жыцця заўчасна?
У іх не запытаць,
яны сабе суддзя.

Шмат тлумачэнняў ёсць:
псіхалагічны крызіс,
Параненасць душы
ці злосць на ўся і ўсіх…
У самагубства ёсць,
на жаль свой катэхізіс,
І тайны, й тупікі —
не разгадаць нам іх.

## Ідэалы і п’едэсталы

Юнацтва —
Богам створаны, удалы,
На дзіва светлы,
непаўторны час.
Юнацтва
Вынаходзіць ідэалы,
Ў душы узносіць іх
на п’едэсталы,
Ў таемны свой,
ружовых мар Парнас.

Юнацтву —
І надвор’ем самым шэрым,
Праз хмар заслону
сонца промні шле.
Юнацтва верыць
прывідным хімерам
І ў чалавецтвам
Створанаю эру,
З свядомым чалавецтвам на чале.

Парыў юнацтва
мала зразумелы
Тым, хто сваё юнацтва
здаў ў архіў,
Забыўся хто
На час той дзёрзкі, смелы,
Ў чыёй душы —
павеў, а не парыў.

О, не дай Бог —
з маленства ў сталасць здуру,

І выкрэсліць юнацтва,
Як утыль.
Хто б кінуўся грудзьмі
На амбразуру?
І хто пераўтвараў бы
              ў казу быль?

Дзе нашага юнацтва ідэалы?
Няма —
Іх скінуў пасталелы час
На іх бы месца нам,
              на п’едэсталы,
Ды завысока ўсё ж
              яны для нас.

## Прыгожая жанчына

Стаіць перада мной
немаладая дама
Й не «дыянзаўр» —
год сорак усяго.
Не твар — палітра,
розных фарбаў гама —
Навошта тынкавацца?
Для чаго?

Ад чырвані густой
блішчаць не губы — пысы,
І тушы чарната
аж сыпіцца з вачэй,
І сінь вакол вачэй —
і зніклі твару рысы,
Саскубленыя бровы
за нітачку танчэй.

Мы ехалі ў метро,
ў вагоне не крануцца —
Пакуль жывы,
рухавіць Божы люд.
Я, нават каб хацеў,
не мог бы адвярнуцца,
Куды мне вочы дзець —
глядзеў на гэты цуд.

Я разумеў — яна
аб маладосці марыць,
Да прыгажосці прагне
па-свойму «мал і стар».

Але ж яна сябе
              не маладзіць, а старыць,
З-пад фарбаў выглядаў
              усё ж прыгожы твар.

Дзівосны парадокс
              вядомы ўсім адвеку,
Відаць, не ўсім,
              бо не крануў яе:
Адзенне маладых
              старому чалавеку
Падкрэслівае старасць
              і ўзросту дадае.

З вагону выйшлі мы,
              я далікатна, чынна,
Каб не абразіць,
              ёй сказаў за-за плеч:
— Паверце мне, што вы —
              прыгожая жанчына,
Але без фарбаў…
І падаўся прэч.

## Удзячнасць

— Гэй, дзед!
Што ты паўзеш, як чарапах?
Вышэй вусы трымай,
Не горбі плечы!
Габлюй хутчэй,
А ты — то пых, то ах,
Жыццё імчыць,
Не адставай, старэча!

Айда за мной!
Ды весялей! Лады?
Успомні маладосць,
Як гойсаў лётам! —
Мяне абкрочыў
Хлопец малады,
Махнуў рукой
І знік за паваротам.

— Эх, хлопча,—
Прашаптаў яму я ўслед,—
Міргнеш —
І маладосць не адгукнецца.
І я быў малады,
Цяпер вось — дзед,
Ад старасці й табе
Нідзе не дзецца.

І я з жыццём
Калісьці быў на «ты»,
Цяпер я ім
«Пастаўлены на вушы»,
І скібы спраў маіх,

Гадоў пласты,
Прыціснулі душу
І лёс мой душаць.—

І ўсё ж яму я ўдзячны,
Ён мяне
Крутнуў на міг
Душой да маладосці.
— Няхай цябе хоць
Старасць абміне! —
Гукнуў я ўслед яму,
Гукнуў без злосці.

